№№147–148
(3686–3687)
21 верасня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...*
Якуб КОЛАС

ІНЦЫДЭНТ

# Не пусцілі

*Двое назіральнікаў Парламенцкай асамблеі АБСЕ не здолелі атрымаць беларускія візы*

Першапачаткова было вядома толькі тое, што атрымаць беларускую візу не здолелі еўрапарламентарыі з Літвы і Германіі. Прэс-сакратар беларускага МЗС Андрэй Савіных пракаментаваў такое рашэнне тым, што "ўезд гэтых асоб у Беларусь непажаданы". Калі высветліліся прозвішчы "неўязных" назіральнікаў, то ўсё стала на свае месцы: беларускі бок не жадае бачыць на гэтых выбарах актыўных крытыкаў нашых парадкаў.

Не змогуць прыехаць у Беларусь дэпутат бундэстага Марылуіза Бек і прадстаўнік Літвы Эмануэліс Зінгерыс. Марылуіза Бек неаднаразова выступала з крытыкай беларускага рэжыму, патрабавала вызваліць палітвязняў і спыніць рэпрэсіі. Эмануэліс Зінгерыс з'яўляецца кіраўніком Камітэта па замежных справах сейма Літвы і дэпутатам Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, таксама актыўна бароніць правы беларусаў на свабоду.

*"Адмова ўлад Беларусі ў выдачы візы — яшчэ адзін доказ таго, што выбары з'яўляюцца фарсам,* — заявіла Марылуіза Бек, даведаўшыся аб адмове ў выдачы візы. — *Я ўсцешана, што Аляксандр Лукашэнка лічыць мяне настолькі небяспечнай, што мне забаранілі ўезд".*





У інтэрв'ю інфармацыйнаму агенцтву БелаПАН спадарыня Бек адзначыла, што адмовай у візе Беларусь *"абражае АБСЕ і інструмент назірання за выбарамі, які быў узгоднены ўсімі дзяржавамі, якія з'яўляюцца членамі Арганізацыі".*

*"Мы будзем тым не менш пільна сачыць за выбарамі і развіццём палітычнай сітуацыі ў Беларусі, нават не маючы віз",* — заявіла дэпутат бундэстага.

Нявыдачу беларускай візы пракаментаваў і Эмануэліс Зінгерыс.

*"Гэта паказвае, што рэжым не змяніўся. Паказвае селектыўны падыход у прыняцці рашэнняў аб тым, каму можна заязджаць, а каму — не. Рэжым, на жаль, працягвае сваю старую палітыку",* — прыводзіць словы Зінгерыса літоўскі інфармацыйны партал Delfi.

Літоўскі парламентарый адзначыў, што ўжо шмат разоў атрымліваў адмову ў беларускай візе "ў сувязі са сваімі выказваннямі аб сутнасці рэжыму Аляксандра Лукашэнкі". *"Гэта паказвае, як ставіцца беларускі рэжым да пытанняў выканання правоў чалавека. Я думаю, пакуль гэты рэжым будзе існаваць, я, на жаль, не змагу наведаць нават магілы сваіх продкаў у Лідзе",* — лічыць ён.

Тым часам кароткатэрміновыя назіральнікі ад Парламенцкай асамблеі АБСЕ ўжо пачалі прыбываць у Беларусь. Каардынатар місіі Матэа Мекачы прыляцеў у Мінск позна вечарам у сераду. У сувязі з адмовай у выдачы візы ён зрабіў адпаведную заяву: *"Я спадзяюся атрымаць вычарпальнае тлумачэнне ад улад па гэтым пытанні, каб быць упэўненым, што атмасфера для прыбываючай місіі па назіранні застанецца спакойнай і што наша праца будзе магчымая без якіх-небудзь забарон або абмежаванняў, як і было заяўлена ў накіраваным нам запрашэнні прыняць удзел у назіранні".*

Дарэчы, 23 верасня назіральнікі АБСЕ, якія працуюць у нашай краіне з доўгатэрміновай місіяй, ужо прадставілі прамежкавую справаздачу. Па словах кіраўніка ЦВК Лідзіі Ярмошынай, ацэнкі "ўмерана негатыўныя". Але беларускія ўлады даўно даказалі, што ў апошнія дні перад выбарамі і непасрэдна ў дзень галасавання і падвядзення яго вынікаў умеюць уражанні еўрапейцаў істотна сапсаваць.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ВІЗІТ

## Невыязны Макей паляціць у Нью-Ёрк

*У штаб-кватэры ААН у Нью-Ёрку адкрылася 67-я сесія Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. З 27 верасня ў агульнапалітычнай дыскусіі 67-й сесіі ГА ААН прыме ўдзел беларуская дэлегацыя на чале з міністрам замежных спраў Уладзімірам Макеем.*

Нагадаем, што Уладзімір Макей, які раней быў кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта, застаецца ў спісе беларускіх чыноўнікаў, якім забаронены ўезд у шэраг заходніх краін. Аднак на мерапрыемствы, якія праводзіць ААН, візавыя забароны не рспаўсюджваюцца. Ужо вядома, што ў Нью-Ёрку кіраўнік беларускага МЗС правядзе шэраг двухбаковых сустрэч з міністрамі замежных спраў "для абмеркавання пытанняў развіцця двухбаковых адносін".

А на гэтым тыдні міністр лятаў у Маскву. Падрабязнасці перамоў с Сяргеем Ларовым невядомы, але журналістам стала вядома пра тое, што адбыўся непалітычны казус: Лаўроў і Макей прыйшлі на сустрэчу ў аднолькавых касцюмах і гальштуках. Нібы блізняты...

ВЫБАРЫ-2012: ХРОНІКА

# ...А ім не трэба

*Прапанова члена акруговай камісіі Грушаўскай выбарчай акругі №98 Мінска Сяргея Вазняка арганізаваць падлік галасоў так, каб ні ў кога не было сумневаў у яго справядлівасці, не знайшла падтрымкі астатніх членаў камісіі.*

Сяргей Вазняк прапанаваў камісіі зацвердзіць праект рашэння, паводле якога забяспечваецца празрыстая працэдура падліку галасоў. У прыватнасці, ён прапанаваў асобна лічыць галасы, аддадзеныя датэрмінова, асобна — сабраныя па месцы жыхарства выбаршчыкаў і асобна галасы, якія выбаршчыкі аддалі на ўчастку непасрэдна 23 верасня. Таксама рэкамендавалася дэманстраваць назіральнікам усе бюлетэні, каб яны маглі бачыць, за каго канкрэтна выбаршчыкі аддалі свой голас. У выпадку, калі ў сябра камісіі ўзнікаюць пытанні па падліку галасоў, прызначаць паўторны падлік. Па меркаванні Вазняка, сённяшняя працэдура падліку галасоў непразрыстая. Зараз кожны сябар камісіі асобна лічыць стос бюлетэняў, ягоныя калегі гэтыя бюлетэні не бачаць, выніковы пратакол падпісвае старшыня, які таксама не бачыў на свае вочы ўсе бюлетэні. А назіральнікі дык і ўвогуле павінны верыць членам камісіі на слова.

Аднак аргументы Сяргея Вазняка іншыя сябры камісіі палічылі неістотнымі. Яны заявілі, што з падлікам галасоў ніякіх праблем няма, таму змяняць працэдуру не мае сэнсу.

## Перастараліся...

*У гэтую выбарчую кампанію выбаршчыкі не праяўлялі аніякай цікавасці да сустрэч з кандыдатамі.*

Так, у Слуцку паводле ацэнкі назіральнікаў і кандыдатаў, самая шматлікая сустрэча адбылася ў Слуцкім гарадскім Доме культуры 18 верасня. На ёй сабралася каля 50 чалавек. Гэта была другая і апошняя сустрэча, у якой прынялі ўдзел тры прэтэндэнты на мандат па Слуцкай выбарчай акрузе №67. У зале прысутнічалі былыя супрацоўнікі КДБ, чыноўнікі, пенсіянеры.

*"На вёсцы, акрамя старшыняў сельсаветаў, сакратароў і іх бібліятэкараў, я нікога не бачыў",* — адзначае кандыдат ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Анатоль Юрэвіч.

Аб нізкай актыўнасці выбаршчыкаў кажа і іншы кандыдат — Аляксандр Шыловіч. *"Людзей на сустрэчах можна было па пальцах пералічыць",* — заявіў ён.

*"Нават кандыдату ад улады Інесе Кляшчук у маладзёжным цэнтры давялося размаўляць з мамамі, якія чакалі сваіх дзяцей пасля заняткаў у студыях. Толькі адзін жыхар Слуцка прыйшоў спецыяльна, каб задаць пытанне кандыдату",* — расказаў назіральнік Віталь Амяльковіч.

Каля двух дзясяткаў чалавек прысутнічалі на сустрэчы з трыма кандыдатамі ў ДК моладзі. Радавых выбаршчыкаў сярод іх былі адзінкі. Асноўная аўдыторыя — работнікі райвыканкама і дзяржпрадпрыемстваў, сябры акруговай выбарчай камісіі, а таксама давераныя асобы Інесы Кляшчук. Але і ў іх не было ніякай цікавасці да таго, што адбываецца: работнікі дзяржпрадпрыемстваў і арганізацый і чыноўнікі пытанняў кандыдатам не задавалі.

Ужо зараз зразумела, што, адвучваючы людзей ад удзелу ў палітыцы, беларускія ўлады перастараліся.

## У вачах двaіцца?

Праваабаронцы і назіральнікі заяўляюць, што некаторыя выбарчыя камісіі паказваюць у пратаколах нашмат большую яўку на датэрміновае галасаванне.

Так, па словах праваабаронцы Анатоля Паплаўнага, на ўчастку №33 Савецкай акругі Гомеля ў першы дзень датэрміновага галасавання назіральнікі налічылі 14 чалавек, а камісія — 25. На другі дзень датэрміновага галасавання на гэтым участку назіральнікі зафіксавалі 21 чалавека, а камісія — 75 чалавек.

Аналагічныя разыходжанні зафіксаваны на ўчастку №2 гэтай жа акругі. Тут 19 верасня, па даных назіральнікаў, прагаласавалі 22 чалавекі, а па даных камісіі — 95.

На ўчастку №18 назіральнікі наогул сочаць за працэсам галасавання не ў памяшканні, а ў калідоры, праз адчыненыя дзверы. У пакоі для галасавання ім не дазволілі знаходзіцца. Між тым яны зафіксавалі яўку ў другі дзень датэрміновага галасавання — 22 чалавекі, камісія ж падае звесткі, што прагаласавалі 105 чалавек.

## Дублёры сыходзяць

*Літаральна за некалькі дзён да пачатку галасавання на некаторых акругах, дзе балатаваліся ажно па два кандыдаты ад улады, знікла інтрыга. Дублёры сышлі.*

Так, першапачаткова па Брэсцкай-Цэнтральнай акрузе ў дэпутаты ішлі і дырэктар абласнога філіяла "Белдзяржстраха" Іван Башчук, і галоўны ўрач мясцовай бальніцы Валянцін Мілашэўскі. Цяпер у спісах застаўся толькі спадар Мілашэўскі.

Па Брэсцкай-Усходняй акрузе першапачаткова балатаваліся і дзеючы дэпутат Ларыса Багдановіч, і прарэктар БрДТУ Вячаслаў Драган. Цяпер стала вядома, што апошні з выбараў усё-такі зняўся.

Стаць дэпутатамі ад Брэсцкай-Пагранічнай акругі выказвалі жаданне вайсковы камісар Уладзімір Базанаў і дырэктар цэнтра сацыяльнага абслугоўвання Святлана Міхайлоўская. Цяпер ад улады застаецца толькі Базанаў.

Праўда, яшчэ застаюцца акругі, дзе ажно некалькіх кандыдатаў можна лічыць праўладнымі. Так, у Купалаўскай акрузе Мінска іх ажно тры. Тут сышліся начальнік Ленінскага аддзела дэпартамента аховы МУС Валерый Дашкоўскі, галоўны ўрач 18-й паліклінікі Вадзім Касцюкоў і цяперашні дэпутат Валянціна Лявоненка.

## Няма з каго выбраць

*Найбольшая колькасць безальтэрнатыўных акруг на выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў аказалася ў Гродзенскай вобласці. Такую выснову можна зрабіць на аснове даных Цэнтрвыбаркама, размешчаных на яго афіцыйным інтэрнэт-сайце.*

Так, у Гродзенскай вобласці можна налічыць 6 безальтэрнатыўных акруг. Гэта Ваўкавыская выбарчая акруга №48 (кандыдатам у дэпутаты з'яўляецца начальнік упраўлення адукацыі Гродзенскага аблвыканкама Аляксандр Сягоднік), Гродзенская сельская №52 (начальнік галоўнай ваеннай інспекцыі Узброеных сіл Аляксандр Мяжуеў), Мастоўская №56 (старшыня СВК "Малаберастравіцкі элітгас" член Беларускай аграрнай партыі Анатоль Коханаў), Навагрудская №57 (старшыня Гродзенскага аблсавета дэпутатаў Андрэй Навумовіч), Смаргонская №59 (генеральны дырэктар КПРСУП "Гроднааблдарбуд" Валерый Кокаш) і Шчучынская №60 (старшыня Шчучынскага райвыканкама Сяргей Ушкевіч).

Пяць безальтэрнатыўных акруг ёсць у Брэсцкай вобласці. Гэта Баранавіцкая-Заходняя №5 (начальнік аддзела працы, заработнай платы і ўдасканалення арганізацыі вытворчасці Баранавіцкага станкабудаўнічага завода Вольга Палітыка), Баранавіцкая сельская №7 (старшыня Баранавіцкага райвыканкама Мікалай Язубец), Белавежская №8 (памочнік прэзідэнта — галоўны інспектар па Брэсцкай вобласці Уладзімір Пузырэўскі), Пружанская №9 (старшыня Пружанскага райвыканкама Аляксандр Юркевіч), Пінская гарадская №14 (дзеючы дэпутат Палаты прадстаўнікоў Зінаіда Мандроўская).

У Мінскай вобласці безальтэрнатыўнымі з'яўляюцца тры выбарчыя акругі: Барысаўская №62 (кіраўнік спраў Барысаўскага райвыканкама Тамара Красоўская), Вілейская №74 (начальнік галоўнага ўпраўлення эканамічнай бяспекі КДБ Віктар Русак) і Заслаўская №77 (старшыня Пятрышкаўскага сельвыканкама Аляксандр Мякіннік). Яшчэ дзве безальтэрнатыўныя акругі знаходзяцца ў Гомельскай вобласці: Гомельская-Сельмашаўская №32 (генеральны дырэктар ВА "Гомсельмаш" Валерый Жмайлік) і Гомельская-Навабеліцкая №36 (энергетык ТАА "МС-Маркет" член Ліберальна-дэмакратычнай партыі Сяргей Мельнікаў).

У Віцебскай, Магілёўскай абласцях і Мінску безальтэрнатыўных акруг пакуль няма.

Такім чынам, безальтэрнатыўнымі парламенцкія выбары з'яўляюцца па меншай меры ў 16 з 110 выбарчых акруг.

НАДВОР'Е

## Пацяплення пакуль не чакаецца

Сіноптыкі прагназуюць дажджы і снег на выхадных і на пачатку наступнага тыдня.

А вось сёння, у пятніцу, будзе воблачнае з праясненнямі надвор'е, магчымы дождж. У Мінску ўначы да 11 градусаў цяпла, днём — да плюс 14.У суботу чакаецца без ападкаў, тэмпература істотна не зменіцца.

А ў нядзелю і на пачатку наступнага тыдня зноў магчымы дажджы і нават мокры снег. Начная тэмпература ў гэтыя дні ў беларускай сталіцы будзе ў межах 7—12 градусаў цяпла, дзённая — 13—15.

СКАНДАЛ

## ЗША абвінавацілі «Белзнешпрамсэрвіс» у ваенных пастаўках Сірыі

Міністэрства фінансаў ЗША ўвяло санкцыі супраць беларускай кампаніі "Белзнешпрамсэрвіс", абвінавачанай у пастаўках засцерагальнікаў для авіяцыйных бомбаў сірыйскай арміі. Па сцвярджэнні ўлад ЗША, у Мінску наладзілі прамыя дзелавыя сувязі з ваенным прадпрыемствам Army Supply Bureau.

Санкцыі супраць гэтай сірыйскай кампаніі дзейнічаюць даўно — Вашынгтон абвінавачвае яе ў сувязях з Іранам. А ў адпаведнасці з законамі ЗША замежныя прадпрыемствы, якія супрацоўнічаюць з Тэгеранам у шэрагу ключавых сфер, падвяргаюцца абмежаванням на камерцыйную дзейнасць у Амерыцы.

Санкцыі супраць кампаніі "Белзнешпрамсэрвіс" ЗША ўвялі для таго, каб спыніць прыток зброі ў сірыйскія войскі. У Вашынгтоне ўпэўнены, што зброя, якую можа набыць Дамаск, будзе выкарыстана прэзідэнтам Башарам Асадам супраць свайго народа.

Нагадаем, што раней пад санкцыі ў сувязі з ваеннымі пастаўкамі ў Сірыю падпала расійскае прадпрыемства "Рособоронэкспорт".

### Да ведама

Збройнае супрацьстаянне ў Сірыі працягваецца з 15 сакавіка 2011 года. Па даных улад, ахвярамі канфлікту сталі 8 тысяч чалавек, сярод якіх значную частку склалі супрацоўнікі органаў правапарадку. Па сцвярджэннях апазіцыі, колькасць забітых перавысіла 25 тысяч, пры гэтым самым кровапралітным месяцам супрацьстаяння стаў жнівень 2012 года. Па гэтай ацэнцы, за апошнія тыдні лета жыццяў пазбавіліся каля 5 тысяч чалавек.

### Адказ Мінска

Беларусь лічыць усе абвінавачванні амерыканскага боку ў адрас кампаніі "Белзнешпрамсэрвіс" беспадстаўнымі і не адпавядаючымі рэчаіснасці. Так пракаментаваў навіну пра ўвядзенне санкцый прэс-сакратар МЗС Андрэй Савіных.



*"Гэта не больш як спроба аказаць ціск на Беларусь за адкрытую і прынцыповую пазіцыю нашай краіны на карысць мірнага ўрэгулявання ўнутранага сірыйскага канфлікту",* — лічыць Савіных.

*"Важна падкрэсліць, што беларускі бок заўсёды няўхільна выконвае рашэння Савета Бяспекі ААН. У сувязі з гэтым аднабаковыя санкцыі ЗША супярэчаць духу канструктыўнага ўзаемадзеяння паміж нацыямі на аснове міжнароднага права і ўзаемнай павагі. Мы рашуча не прымаем гэтыя падыходы і лічым прымяненне аднабаковых мер недапушчальным",* — падкрэсліў ён.

СІТУАЦЫЯ

# Праўладны кандыдат зняўся з выбараў разам з апазіцыйным

Мала хто мог прадказаць, што падзеі ў Гомельскай-Навабеліцкай акрузе №36 будуць развівацца такім чынам. У першы ж дзень датэрміновага галасавання стала вядома, што праўладны кандыдат у дэпутаты Ігар Пракапенка зняў сваю кандыдатуру з выбараў. Выбарчыя камісіі вымушаны былі заклейваць ужо гатовыя агітацыйныя плакаты няўклюднымі аб'явамі: "Пракапенка Ігар Мікалаевіч зняў сваю кандыдатуру з выбараў па асабістай заяве".

Навіна для Гомеля аказалася сапраўды сенсацыйнай. Справа ў тым, што да 6 верасня Ігар Пракапенка з'яўляўся памочнікам Аляксандра Лукашэнкі і галоўным інспектарам па Гомельскай вобласці. Гледзячы па ўсім, адстаўка для яго была поўнай нечаканасцю. Але для таго, каб прыняць рашэнне аб зняцці з выбараў, цяпер ужо беспрацоўнаму Пракапенку спатрэбілася яшчэ больш за тыдзень.

Так атрымалася, што амаль адначасова ў акрузе зняў сваю кандыдатуру кандыдат ад апазіцыі, прадстаўнік Аб'яднанай грамадзянскай партыі Уладзімір Няпомняшчых. Нагадаем, што ў мінулыя выхадныя такое рашэнне прыняў з'езд АГП. Такім чынам, па Гомельскай-Навабеліцкай акрузе застаўся толькі адзін няўцямны кандыдат — прадстаўнік Ліберальна-дэмакратычнай партыі Сяргей Мельнікаў, пра якога ў горадзе ніхто не ведаў і не чуў.

Чаму ж улады дапусцілі "агаленне" акругі ў абласным горадзе? Што стала прычынай адстаўкі Ігара Пракапенкі, партрэты якога цяпер заклейваюць на стэндах разам з партрэтамі апазіцыйнага кандыдата?

Афіцыйна сваё рашэнне зняцца з выбараў Ігар Пракапенка выбаршчыкам ніяк не патлумачыў. Але чуткі на гэты конт у Гомелі самыя розныя.

Не выключана, што прычынай сталі "хваляванні" ў стане гомельскага чынавенства, якія назіраюцца апошнім часам. Ігара Пракапенку вызвалілі з пасады галоўнага інспектара 6 верасня, а літаральна за пару дзён да гэтага сышоў са сваёй пасады старшыня Гомельскага гарвыканкама Віктар Піліпец. У хуткім часе высветлілася, што высокую пасаду ён змяніў на значна больш сціплую у звычайным праектным інстытуце. Пры гэтым ніякіх каментарыяў наконт таго, куды і чаму сыходзяць начальнікі, грамадскасць так і не пачула.

Крыху раней па Гомельшчыне пракацілася сапраўдная хваля крымінальных спраў супраць службовых асоб з кіруючага звяна прадпрыемстваў — то намесніка начальніка трубнага цэха БМЗ абвінавацілі ў крадзяжы дарагіх падшыпнікаў, то кіраўніка аднаго са структурных падраздзяленняў Гомельскага домабудаўнічага камбіната абвінавацілі ў хабарніцтве. Але найбольш гучным стала абвінавачванне чатырох кіраўнікоў Упраўлення капітальнага будаўніцтва Гомельскага гарвыканкама ў махінацыях з жыллём. Таму не дзіўна, што многія гамяльчане адстаўку Віктара Піліпца звязваюць менавіта з гэтым. І вось цяпер логіка выводзіць і сувязь былога памочніка прэзідэнта з усімі гэтымі падзеямі. Некаторыя сайты нават агучылі інфармацыю, што крымінальная справа распачата таксама супраць Ігара Пракапенкі, звязаўшы менавіта з гэтым ягонае рашэнне зняцца з выбараў. Але ў пракуратуры Навабеліцкага раёна Гомеля "Народнай Волі" паведамілі, што крымінальнай справы супраць былога галоўнага інспектара вобласці ў іх няма. У Следчым камітэце адказалі, што ўвогуле не валодаюць ніякай інфармацыяй па гэтым пытанні.

Як бы там ні было, але на дадзены момант акруга засталася без праўладнага кандыдата.

Каардынатар назіральнікаў па Гомелі Васіль Палякоў лічыць, што ўлады не дапусцяць, каб безальтэрнатыўна прайшоў нікому не вядомы кандыдат ад ЛДП.

*— Па нашых прагнозах, камісіі зафіксуюць яўку, як і на іншых участках (каля 80 працэнтаў), але большасць выбаршчыкаў прагаласуе супраць гэтага малавядомага кандыдата ад ЛДП. І тады будзе прызнана, што выбары не адбыліся і трэба праводзіць новыя. Вось тады ўсё стане на свае месцы.*

Былы дэпутат Вярхоўнага Савета СССР гамяльчанін Юрый Варонежцаў лічыць, што справа Ігара Пракапенкі лагічна ўпісваецца ў рэчаіснасць апошняга часу:

*— Штуршком стаў скандал, які пачаўся яшчэ вясной: традыцыйна ў нас раз на тры гады арыштоўваюць розных кіраўнікоў. А што да Пракапенкі, то ён быццам бы не апраўдаў даверу і таму не годны, каб стаць дэпутатам. Тут толькі адно дзіўна — тое, што гэта адбылося падчас выбарчай кампаніі. Хутчэй за ўсё гэта звязана з нейкім будучым перадзелам ці з ужо цяперашняй зменай улады ў нашым рэгіёне. Пасля сыходу былога старшыні Гомельскага аблвыканкама Аляксандра Якабсона амаль год было своеасаблівае безуладдзе. Здаецца, адбываўся нейкі гандаль, каго куды прызначыць. Зразумела, пры поўнай непразрыстаці і поўнай адсутнасці ўплыву грамадзян на гэты працэс. Нават пры савецкай уладзе такога не адбывалася.*

Пасля 23 верасня стане вядома, наколькі спраўдзіліся прагнозы назіральнікаў і палітолагаў. Гэта той выпадак, калі пытанне вырашыцца адназначна і ў хуткім часе.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## Маленькі подзвіг БАТЭ

Хто б мог падумаць, што ў першым матчы групавога этапа Лігі чэмпіёнаў па футболе барысаўскі БАТЭ ў гасцях пакладзе на лапаткі чэмпіёна Францыі — "Ліль" — з лікам 3:1? Думаю, такіх былі адзінкі... Гэта першая перамога барысаўчан у групавых этапах Лігі чэмпіёнаў. Пры гэтым, думаю, калі б БАТЭ прайграла, але б дала самы сапраўдны бой французам, ніхто б таксама не папракнуў каманду. Аднак сумясцілі прыемнае з карысным. Бліскучая гульня на контратаках у першым тайме (3:0 на карысць БАТЭ) па сутнасці вырашыла зыход гульні.

*"БАТЭ выйграе ў гасцях у французаў у Лізе чэмпіёнаў, Беларусь выходзіць на Алімпіяду... Хутка беларусы будуць нас вучыць у футбол гуляць",* — напісаў у "Твітары" вядомы расійскі спартыўны журналіст Ігар Рабінер.

Нагадаем, што 2 кастрычніка БАТЭ ў Мінску згуляе са славутай "Баварыяй". Хочацца пажадаць барысаўчанам толькі аднаго — так трымаць!

**Алесь СІВЫ.**

СЛЫШАЛИ?

## Торт к «Дажынкам-2012» может попасть в Книгу рекордов Гиннесса

К нынешнему сельскохозяйственному фестивалю в Горках испекут торт в виде поезда длиной 30 метров и весом 800 килограммов. Попробовать его можно будет на выставке "Праздник хлеба" в рамках "Дажынак-2012".

Основные мероприятия запланированы на пятницу, 21 сентября. В первую очередь это "церемония вручения первых премий победителям республиканского соревнования по уборке зерновых и зернобобовых культур, государственных наград". А до этого эти самые победители (комбайнеры, механизаторы и представители прочих сельскохозяйственных профессий) пройдут праздничным шествием по улицам Горок.

Для развлечения участников "Дожинок" — концерты. Сборный — звезд белорусской эстрады, и отдельный — российского певца Олега Газманова. Среди прочего в программе "Дажынак" — турнир силачей, массовое катание на коньках, пивной фестиваль.

### КСТАТИ

Ранее выделенных средств на подготовку к "Дажынкам" Горкам не хватило. На благоустройство города будет выделено из республиканского бюджета еще 15 миллиардов рублей. Эти средства уйдут на то, чтобы до конца текущего года полностью завершить работы по наведению порядка и благоустройству города. О новых финансовых вливаниях в столицу нынешних "Дажынак" сообщил на пресс-конференции заместитель председателя Могилевского облисполкома Анатолий Черный. До этого в Горки уже вбухали гигантскую сумму — около одного триллиона рублей.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Бітва за мора

*Карэспандэнт "Народнай Волі" пабываў у будучым "пасёлку мільянераў", з-за якога разгараецца скандал*



*Интэрнет данёс, нібыта "пінкертонамі" Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю спынена чарговая спроба незаконнага гандлю зямлёй. Ладны кавалак зямлі, які наважыўся "распілаваць" навяўлены інвестар, размешчаны не дзе-небудзь на выселках, а на самым беразе Мінскага мора... Гаворыцца нават аб рэкордным для Беларусі памеры хабару. Хаця афіцыйна гэтая інфармацыя не пацверджана, але і не абвергнута, "кампетэнтныя органы" па традыцыі маўчаць. Але пакуль яны разважаюць пра тое, што можна давесці грамадскасці, карэспандэнт "Народнай Волі" наведаў прыбярэжны "плацдарм", з-за якога грымнуў скандал.*

Вёска Лапаравічы — калі глядзець з боку дамбы ці, прыкладам, з яхтклубаўскага мастка — па той бок мора. Не згледзіш адразу. Затое лапаравічане могуць без бінокля, проста са сваіх ганкаў любавацца сталічнымі "хмарачосамі". Карацей — зусім блізка ад сталіцы. Само сабою, месца вельмі прынаднае. Асабліва для тых, хто яшчэ не паспеў адгрохаць харміну ці там проста ўкласці "чэсна заробленыя" грошы... Але пакуль еду ў тыя Лапаравічы, пакуль за спінаю толькі водна-спартыўны канал, варта ўдакладніць інфармацыйную зачэпку гэтай вандроўкі.

Дык вось, размова ідзе пра 279 гектараў зямлі ўздоўж Мінскага мора, якую — па рашэнні Мінскага аблвыканкама — атрымала ў сваё распараджэнне нейкая кампанія пад назваю "ОКСЕСінвест". І мэта ж бачылася высакародная, адна назва праекта чаго вартая: "Будаўніцтва і ўвод у эксплуатацыю пасёлка малапавярховай жылой забудовы з аб'ектамі інжынернага абслугоўвання, камунікацыямі і аб'ектамі сацкультбыту паблізу вёскі Лапаравічы". Уяўлялася, што гэта будзе не проста пасёлак, а сапраўдны цуд: адзіная сістэма інжынерных сетак, зоны адпачынку, сады-яслі, гіпермаркет, паліклініка, станцыя ачысткі бруднай вады, спартыўныя аб'екты і ўсе астатнія цывілізацыйныя прыбамбасы. Агульны аб'ём інвестыцый планаваўся амаль у 430 мільёнаў еўра. І тут на табе — аблом: інвестар перастаў біць у хамут, не захацеў будаваць "светлую будучыню" для народа. Ну каму ж ахвота траціць свае грошы на чужое шчасце?..

Праўда, высветлілася, што доля інвестара ў "светлай мары" складае ўсяго толькі 7 мільёнаў долараў. Астатнюю "зеляніну" нібыта павінны былі ўкласці дольшчыкі элітнага пасёлка, розныя іншыя ахвочыя, якія б захацелі будаваць (мо толькі з патрыятычных памкненняў?..) усю астатнюю "сацыялку". Далей — больш... Уладальнік меў намер прыступіць да пункта "Б" сваёй "высакароднай" праграмы, але тут умяшаліся "пінкертоны", кажуць, нават Генеральная пракуратура... Можа, хоць цяпер народ уведае, хто той спраўна-шустры інвестар, якому гэтак лёгка ўдалося атрымаць дазвол ад улады на распараджэнне элітнай "прыморскай" зямлёй.

Што да інтэрнэту, то там распаўсюджана інфармацыя пра нябывалы хабар высокапастаўленым службовым асобам "за спрыяльнае рашэнне ўваходзячых у іх кампетэнцыю пытанняў аб набыцці ва ўласнасць у дзяржавы ўчастка зямлі, агульнай плошчай 279 га, прадастаўленага "ОКСЕСінвесту" раней у рамках інвестыцыйнай дамовы". Пішуць, што памер хабару б'е ўсе рэкорды: па аператыўных даных, нібыта нейкі "адказны таварыш" патрабаваў 5 мільёнаў долараў і 17 участкаў зямлі (а гэта яшчэ амаль 500 тысяч "зялёных"), якія прыляпіліся да Лапаравіцкай прыбярэжна-элітнай паласы Мінскага мора. Прычым ніхто з адказных асоб не паспяшаўся заступіцца за гонар мундзіра і гэтыя звесткі абвергнуць. А значыць, вельмі верагодна, што мы маем той самы выпадак, калі кахаць — дык каралеву, красці — дык мільён...

Але вернемся да Лапаравічаў, тым больш што мы ўжо на месцы.

Вёска як вёска — звычайная: выцягнулася ўздоўж мора, падпіраючы пясчана-камяністы бераг агародамі, садамі, старымі хатамі. Але толькі на першы погляд — звычайная. Насамрэч у паселішча дзве адметнасці. Па-першае, вёска і напраўду даўжэзная — цягнецца на тры кіламетры. Па-другое, не дыхае на ладан, як некаторыя ў глыбінцы, — тут на ўсю моц разгорнута прыватнае будаўніцтва. І без усялякага там "праекта мары"... Асабліва тое заўважна на другім канцы Лапаравіцкага "прашпекта", там, дзе ён звужаецца і канчаецца, плаўна пераходзячы ў зарослую трыснягом і кустоўем прыбярэжную зону. Дамы тут узводзяць з разраду тых, што завуцца харомамі. Прычым некаторыя з іх падазрона блізка ад вады, за якія трыста-чатырыста крокаў.

На адну такую новабудоўлю я і завярнуў. Падняўся на другі паверх, дзе шчыравалі наёмныя хлопцы. Дом настолькі агромністы, што спачатку я палічыў яго за будучы санаторый ці нешта падобнае. "Ды не, — пасміхаюцца малойцы, — звычайны домік для звычайнага "новага беларуса".

З вышыні камяніцы — як на далоні — усе Лапаравічы, мора, аселіца, нават ускраінныя вышынныя раёны Мінска. Разам любуемся на скайт-серфінгістаў, якія, ловячы вецер сваімі парашутамі-крыламі, ганяюць па марской хвалі. Відовішча класнае, нягледзячы на тое, што неба зацягнута свінцова-шэрым месівам, скрозь якое ледзь прабіваецца ўсё яшчэ ласкавае сонейка. Азіраю наўкол-ле: краявід і сапраўды маляўнічы, варты пэндзля мастака, а не толькі тоўстага кашалька... Што ўразіла? А тое, што побач з пахіленымі, шэрымі хацінамі павырасталі (усё роўна як топ-мадэлі сярод абарванцаў) новыя, нібы з глянцава-рэкламных часопісаў дамы-вітрыны. І вось не ведаю, радавацца такому ці як? У той жа час гэта рэальнасць, такой становіцца Беларусь: адны ў харомах, іншыя ў "хрушчобах".

Але пара спускацца на грэшную зямлю, пазнаёміцца хоць з якімі месцічамі, пакуль яны тут... гаспадары.

Вуліца амаль бязлюдная, таму заходжу ў двор, дзе чую галасы.

— Анатоль, — ветла прадстаўляецца мужчына гадоў сарака. — От заканчваю фарбаваць веранду, а пакуль дзіўлюся на серфінгістаў-дзівакоў...

Пазіраючы на каляровыя парашуты-крылы (мора як на далоні) , уладальнікі якіх "сядлаюць" хвалю, несучыся ўздоўж берага, паціху гамонім.

— Уяўляеш, вось гэтая хата — бацькоўская, значыцца, мая. Так?

— Так, — пагаджаюся з гаспадаром.

— Але ж не далі ні знесці яе, каб пабудаваць новую, ні дабудаваць... Не паложана, кажуць.

— Ну, але ж вунь якая камяніца! — не разумею я. — Выходзіць, свайго дамогся?..

— Як бы не так! — кідае ў адказ той. — Проста плюнуў я на іхныя забароны ды і склаў дом. Але ж штраф які выплаціў! Калі прыпісаны ў Мінску, бачыш, то нельга... Але ж хата бацькоў, тут я нарадзіўся, вырас... Цяпер во — па суседстве — якія палацы будуюць, якія пляцы зямлі маюць, прычым навалач скрозь — і нічога, ім можна... А чаму? Таму, што грошай — куры не клююць. І ўсім, каму трэба, заплачана па самае нельга...

Ужо пакідаючы Лапаравічы, прыпыніўся ля ладнага дамка, дзе прыкошваў сталага веку чалавек — па ўсім не "навалач", а самы што ні на ёсць тутэйшы. Селі на лаўку, закурылі, павялі гаворку...

— Дашчынскі я, Міхаіл Эдуардавіч, — кажа, — адсюль і родам. Сорак гадоў круціў баранку ў Мінску, а раней у Сібіры — у Лангепасе... От жыву ў сваім доме, сам яго будаваў. Цяпер добра, прыродны газ вясною падвялі. А як газ, то не выказаць, як добра, бо і цяпло, і гарачая вада.

— А ці чулі што-якое пра "ОКСЕСінвест", пра інвестара? — пытаюся ў гаспадара. — Кажуць, вашы Лапаравічы неўзабаве стануць пасёлкам мільянераў, ператворацца ў нешта звышсучаснае.

— Чуткі ходзяць, але ніхто толкам нічога ні ведае, — працягвае пенсіянер, — дакладна ведаю, што пры дарозе ўстанавілі два трансфарматары, значыцца, для тае будоўлі, бо ў нас свае ёсцека... Яшчэ баялі, што зямлю будуць прадаваць з аўкцыёна — быццам сам прэзідэнт загадаў. Толькі ў нас і так будуюцца, асабліва на тым канцы вёскі. Такія дамы, што куды там Еўропам!

— А хіба мясцовая ўлада не праінфармавала насельніцтва — усё ж ваша зямля?

— Што той сельскі Савет?! За якія тры гады — тры новыя старшыні. Хіба гэта нармальна? Яны жывуць самі па сабе, мы — самі па сабе. Добра, што хоць газ падвялі ды смецце пачалі вывозіць. На тым і дзякуй. Думаю, каб не ваш той "інвест", то і газу б не мелі — мусіць жа пад сябе ўсё спланавалі, — разважліва заключыў Эдуардавіч. — І не дзіва, што сюды пруцца — месца гожае, зямля даражэе год ад году — як на дражджах.

...Вярталіся ў Мінск ужо не праз Заслаўе, а процілеглым напрамкам — праз Сёмкава і Цнянку. З Лапаравічаў у які бок ні паедзеш — трапіш у сталіцу...

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**



РЭГІЁН

## *У Магілёве перад выбарамі прызначылі новага галоўнага ідэолага*

*Намеснікам старшыні гарвыканкама стаў намеснік дырэктара па ідэалогіі завода "Зеніт" Мікалай Міхаленя. Цікава, што адначасова ён узначальвае адну з акруговых выбарчых камісій горада.*

На новай пасадзе Мікалай Міхаленя змяніў Ігара Шардыку. Нагадаем, што гэтага чыноўніка звольнілі з пасады без лішняга шуму, а ўся інфармацыя пра яго была выдалена з афіцыйнага сайта гарвыканкама. Прычыны раптоўнай адстаўкі ідэолага не агучваліся, але пасада была вакантнай ужо больш за месяц.

Варта дадаць, што Мікалай Міхаленя з'яўляецца старшынёй акруговай выбарчай камісіі №84. Зборшчыкі подпісаў за апазіцыйных кандыдатаў паведамляюць, што ў падуладныя Міхаленю інтэрнаты іх не пускалі. Вахцёркі спасылаліся на яго вусную забарону.

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ

## *А что с Шапиро?*

***Обратил внимание, что председателя Гродненского облисполкома Семена Шапиро нет среди кандидатов в члены Совета Республики, в то время как все остальные руководители областей в этом списке есть. Что это значит? Шапиро готовят к увольнению?***

**Николай Сорокин, Гродно.**

Очень сложно ответить на этот вопрос, однако действительно Семена Шапиро в списке кандидатов в члены Совета Республики от Гродненщины в списке нет. В конце августа на совместных заседаниях президиумов районных Советов депутатов и райисполкомов Гродненская область выдвинула в верхнюю палату парламента восемь кандидатур. Среди них председатель СПК "Прогресс-Вертелишки" Василий Ревяко, заместитель генерального директора по экономике и финансам ОАО "Гродно Азот" Тамара Последняя, главный редактор "Лидского телерадиообъединения" Нина Позняк, председатель Островецкого райисполкома Адам Ковалько, главный врач областного кардиологического диспансера Тамара Долгошей, первый секретарь областного комитета ОО БРСМ Юрий Алексей, двукратный олимпийский чемпион, директор представительства Национального олимпийского комитета Беларуси в Гродненской области Александр Курлович, заместитель директора по инвестициям ООО "Биоком" Андрей Павловский.

Однако при формировании Совета Республики свою квоту имеет и Александр Лукашенко, который вполне может включить Семена Шапиро в президентский список. Вторая версия — гродненский губернатор вскоре может занять пост в правительстве, поэтому с его выдвижением в Совет республики решили не торопиться. В любом случае пока ничто не указывает на то, что карьера Шапиро близится к финишу.

ПРОГНОЗ

# Как и на что могут вырасти цены после парламентских выборов?

*С начала года инфляция превысила 15% и вряд ли уже сможет удержаться в пределах нижнего прогноза по концу года — менее 20%. Что именно и как может подорожать в ближайшие месяцы?*

*Вслед за рекордной инфляцией в августе (2,4%) по состоянию на 11 сентября потребительские цены с начала месяца выросли на 0,8%. И это на фоне снижения стоимости овощей нового урожая. Предстоящие месяцы обещают быть инфляционными, если власти в очередной раз не стабилизируют цены административным путем.*

## Бензин, алкоголь, сигареты

Наиболее вероятные кандидаты на подорожание — подакцизные товары: бензин, алкоголь, табачные изделия. Акцизы на алкоголь и топливо повысились в августе. И алкогольные напитки не замедлили продолжить свой рост (на 7,9%). А по договоренности с Россией мы обязались повышать акцизы на алкоголь в этом году ежеквартально. Так что подорожание спиртных напитков неминуемо.

С 1 сентября выросли цены и на некоторые виды сигарет. И скорее всего это не последнее подорожание. Ведь этот товар все еще остается очень дешевым по сравнению с сопредельными странами и по-прежнему является одной из статей контрабанды наряду с дизельным топливом.

Топливо после повышения акцизов тоже уже дорожало. Однако после окончания уборочной страды цены на него могут вырасти минимум на 5%.

## Тарифы ЖКХ и транспорт: как пойдут переговоры с кредиторами

Если власти решатся на повышение цен на топливо, встанет вопрос и о повышении тарифов на пассажирский транспорт. Впрочем, их и без того планируется поднять в октябре. По крайней мере, директор ГУ "Столичный транспорт и связь" Валерий Шкуратов в конце августа заявлял, что стоимость проезда в общественном транспорте Минска в октябре увеличится с 1,5 до 1,7 тысячи рублей (на 13%). Будут подтягиваться и регионы.

Повышение тарифов на транспорт до конца года было запланировано властями и даже обещано Антикризисному фонду ЕврАзЭС.

*"Тарифы на услуги транспорта (городские и пригородные пассажирские перевозки автомобильным, городским электрическим, внутренним водным транспортом и метрополитеном) в 2012 году будут последовательно повышаться, и на конец 2012 года их уровень обеспечит покрытие населением не менее 85% затрат на оказание таких услуг",* — сказано в письме, на основании которого Беларуси был выдан третий транш кредита.

Уровень покрытия населением затрат сейчас не известен, но очевидно, что он составляет далеко не 85%, если еще в прошлом году правительство хотело поэтапно повысить стоимость проездного талончика до 2500—2600 рублей.

Среди обещаний фонду также доведение на конец 2012 года уровня возмещения населением затрат на жилищно-коммунальные услуги до 35% себестоимости производства данных услуг, а тарифов на их сверхнормативное потребление — до уровня себестоимости услуг.

До конца года планировалось еще одно повышение тарифов. Однако 11 сентября Александр Лукашенко критически высказался о повышении тарифов свыше 5 долларов и предложил рассмотреть схему дифференцированной оплаты.

Таким образом, повышение жилищно-коммунальных тарифов будет зависеть от жесткости переговоров по четвертому траншу кредита с Антикризисным фондом.

Возможно, властям не удастся избежать еще одного повышения, но не исключено, что они попытаются заменить его программой по введению дифференцированной оплаты (по тарифам на электроэнергию это уже обсуждается).

До конца года могут еще подтянуться вверх и без того дорожающие опережающими темпами услуги (рост с начала года — почти 23%). Прежде всего — за счет роста себестоимости из-за роста зарплаты.

## Продукты питания: цены вверх

В группе продовольственных товаров (с начала года они подорожали уже на 16%) продолжается довольно интенсивный рост цен. Однако происходит он скачкообразно по различным группам. И на это оказывает влияние как административное регулирование, так и сезонный фактор. Быстрее дорожает то, что в предыдущие месяцы или в кризисном прошлом году дорожало медленнее. В сентябре довольно резко подскочили в цене яйца — на 4,6%. Хотя перед этим два месяца подряд цены на них снижались. Довольно интенсивно растут цены на мясо (в целом по группе рост составил 15%, а вот говядина с начала года подорожала почти на четверть), молоко (рост цен на 14%), хлеб (рост на 28%).

Не исключено еще одно директивное подорожание до конца года на регулируемую группу молочных и мясных продуктов. Во-первых, из-за продолжающегося вымывания ассортимента, прежде всего молочных товаров, во-вторых, из-за опережающего роста цен сельхозпроизводителей по сравнению с инфляцией.

За январь-август рост цен производителей составил 24% против роста потребительских цен на 14,6%. Рассчитывать, что цены на продукцию переработки нового урожая сохранятся, не приходится. До конца года возможен и дальнейший "естественный" (за счет появления так называемых новых товаров) рост цен на основные продукты — мясо, молоко и хлеб.

После парламентских выборов не исключено однократное повышение цены на сахар — на 5—10%. Опыт прошлых лет демонстрирует: в сентябре-октябре этот продукт частенько дорожал.

## Макроэкономический фактор

Возможная девальвация и рост зарплаты могут повлиять на ситуацию. В случае разовой девальвации ее размер тут же будет скомпенсирован аналогичным ростом цен. А при постепенном падении курса рубля, которое не отрицает глава Нацбанка Надежда Ермакова, рост цен будет чуть опережать предполагаемый размер плавной девальвации.

Второй фактор — повышение зарплаты. Выданная на руки денежная масса давит на рынок и на цены. Причем правительство, пожалуй, впервые применило новую тактику: если раньше регулируемые цены росли после повышения тарифной ставки, то сейчас в августе довольно резко взлетели цены на некоторые продукты питания и тарифы ЖКХ, а тарифная ставка первого разряда была повышена только в сентябре. Опасаясь давления лишних денег на потребительский и валютный рынки, правительство заранее связало денежную массу.

Не исключено, что этот ход до конца года будет применен еще раз. Если правительство, как и просил президент, пойдет на еще одно повышение тарифной ставки.

С учетом предвыборного характера сентября можно предположить, что основные мероприятия по макроэкономическому сбалансированию цен, тарифов, курса и зарплаты могут быть проведены в октябре-ноябре.

Повышение регулируемых цен будет "размазано" на несколько месяцев: например, в октябре могут подорожать транспорт и сахар. В ноябре — вырасти тарифы ЖКХ и цены на мясо-молочные подукты.

Ну а в декабре белорусов ждет традиционное предновогоднее ценовое ралли. Никакими угрозами и увещеваниями невозможно остановить рост цен на корзину продуктов для "праздничного стола".

**Ирина ОРЛОВА,**
*"Завтра твоей страны".*

ВНИМАНИЕ!

# Милиция просит помощи



По подозрению в совершении мошенничества сотрудниками УБЭП ГУВД Мингорисполкома задержан мужчина, представлявшийся как Сергей Ильич Боровко. В ходе проведения проверочных мероприятий у оперативников появились основания предполагать, что задержанный представляется чужим именем, свои же настоящие данные он по каким-то соображениям скрывает.

В поле зрения борцов с экономическими преступлениями задержанный попал в ходе отработки оперативной информации о том, что некий гражданин берется оказать помощь в решении вопросов по приобретению земельных участков в пригороде Минска. Делец всячески дает понять, что для него практически не существует ничего невозможного, он хорошо знаком с нужными людьми и все зависит только от суммы вознаграждения. При этом коммерческой организации, которая подыскивала себе участок для постройки складского помещения, этот деятель преподносил ситуацию таким образом, что без его участия и связей вопрос предоставления земли является абсолютно неразрешимым. После первой стадии переговоров была названа и цена услуги — 8 тысяч долларов.

Однако в ходе проведения оперативной разработки сотрудники УБЭП ГУВД усомнились в сверхвозможностях седовласого дельца, а дальнейшие проверочные мероприятия подтвердили, что декларируемые Сергеем Ильичом Боровко услуги являются бравадой. Задержание происходило, что называется, с поличным — в момент получения денег. Однако непосредственно при задержанном и по месту его проживания не было обнаружено никаких подтверждающих личность документов.

В УБЭП ГУВД отметили, что задержанный, скорее всего, является гражданином другого государства, однако его деятельность в последнее время была связана с городом Бобруйском Могилевской области. При этом имеются обстоятельства, которые указывают на причастность задержанного к совершению других преступлений, в том числе мошеннического характера. В настоящее время проводятся мероприятия по установлению личности злоумышленника, его гражданства, в том числе с использованием возможностей международного взаимодействия правоохранительных органов.

В этой связи сотрудники УБЭП ГУВД обращаются ко всем, кто может узнать изображенного на фото мужчину либо же был свидетелем или потерпевшим от его преступных деяний, сообщить о себе по телефонам: **8 (017) 288-75-13, 8 (029) 346-24-47**.

Конфиденциальность гарантируется.

УРАДЖАЙ

## *Як яблыку трапіць у магазін?*

*Дзіўная сітуацыя: сёлета ў Беларусі цудоўны ўраджай яблыкаў, але беларускіх пладоў у магазінах няма. У выніку пытаннем пастаўкі айчынных яблыкаў у продаж заняўся асабіста прэм'ер-міністр.*

Міхаіл Мясніковіч даў заданне Белкаапсаюзу і канцэрну "Белдзяржхарчпрам" забяспечыць *"бесперабойную працу нарыхтоўчых і перапрацоўчых арганізацый па закупцы яблыкаў у насельніцтва і фермерскіх гаспадарак".* Міністэрству гандлю, а таксама Белкаапсаюзу сумесна з аблвыканкамамі і Мінскім гарвыканкамам даручана забяспечыць продаж беларускіх яблыкаў у буйных гандлёвых цэнтрах і на рынках. Акрамя таго, прэм'ер даў указанне *"забяспечыць закладку яблыкаў на міжсезонны перыяд"* і засяродзіў увагу на арганізацыі прыёму яблыкаў у насельніцтва, заўважыўшы, што нарыхтоўчыя арганізацыі не павінны без усялякіх падстаў адмаўляць грамадзянам у здачы яблыкаў.

Акрамя таго, да ведама насельніцтва павінна быць даведзена інфармацыя аб месцах знаходжання нарыхтоўчых пунктаў, а таксама часе іх працы.

НУ І НУ!

## *За півам... праз мяжу*

*П'яны паляк у пошуках піва заблукаў і трапіў у Беларусь*

Вячоркі з сябрамі ў польскім Цярэспалі завяршыліся для 19-гадовага грамадзяніна Польшчы непрыемнасцямі. Маладога чалавека без дакументаў ноччу затрымалі брэсцкія памежнікі за парушэнне дзяржаўнай мяжы. Малады чалавек спрабаваў перасячы сігналізацыйны комплекс.

Як паведаміў прэс-цэнтр Дзяржаўнага памежнага камітэта Беларусі, да нелегальнага "падарожжа" маладога чалавека падштурхнула жаданне працягнуць свята — ён адправіўся ў бліжэйшую краму за півам. Аднак стан ап'янення і незнаёмая мясцовасць прывялі да таго, што ён заблукаў. Спрабуючы знайсці дарогу, нават не заўважыў, што спрабаваў трапіць у Беларусь.

Парушальнік мяжы затрыманы і змешчаны ў ІЧУ Брэсцкай памежнай групы.

